# Што зрабілі?

*Сябры! Адна з запаведзяў, якую Бог даў людзям праз прарока Майсея, гучыць так: не забі.*
*Уяўляю, як многія з вас радасна заўсміхаліся: бо мы ж яшчэ не паспелі нічога такога страшнага зрабіць! І дзякуй Богу! Але...*

Нядаўна адзін хлопец з нашага двара так сварыўся са сваёй бабуляй, так горача ёй штосьці даказваў, што бабулю схапіў сардэчны прыступ. Ёй выклікалі «хуткую». Добра, што дактары паспелі зрабіць патрэбныя ўколы...



На вялікім перапынку дзве дзяўчынкі так спрачаліся аб нечым, што ў іх асіплі галасы. Шчасце, што празвінеў званок, і яны пабеглі на ўрок. Праўда, гаварыць ім было ўжо цяжка, яны толькі сіпелі, нібы тыя вужакі...


Малюнак Вікі Сініцынай.

Пяцікласнік Мацвей падставіў нагу першакласніцы , і яна заваліласяпроста на сцежцы, выпусціўшы з рук печыва з белым крэмам...

— А што, пажартаваць няможна? — апраўдваўся Мацвей, калі дворнік схапіў яго за руку.



# Што не зрабілі?



Два сябры так зранку загуляліся ў камп'ютарную гульню, што не заўважылі, як надышоў вечар.

— Ды мы толькі нядаўна... — апраўдваўся адзін перад мамай.

— Мы вось толькі што... — бурчэў другі і цёр штосілы свае і без таго чырвоныя вочы.

У афармленні матэрыялу прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка».

У суботу, ад'язджаючы на лецішча, мама папрасіла Кацю зняць вазоны з падваконня, каб іх не паліла сонца, і шчодра паліць кветкі. Дачка ж забылася. У дарозе ўспомніла, але прызнацца пабаялася. У нядзелю ўвечары яны вярнуліся ў горад і ўбачылі... сумную карціну на падваконні.

— Я... я нічога не зрабіла!.. — паспрабавала абараніцца Каця.

— Вось гэта ж і бяда... — уздыхнула мама.



*Не трапляў ты, дружа,*
*у гэткія альбо падобныя сітуацыі?*

Маленькі рыцар Беззаганнай

«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 2 (68)/2015 г.
Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.
Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.
220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацы за №904.
Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,
мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.
**Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2; **e-mail:** m.rycar@yandex.by
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 500 экз. Заказ № 3902.
Падпісана да друку 24.06.2015 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

I
Не май іншых багоў, апроч Мяне

II
Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна

III
Памятай дзень святы святкаваць



# Урокі айца Віталія

Біцца ў Паўліка зусім не атрымлівалася. Вось і цяпер ён атрымаў ад свайго сябра Андрэя кухталя ў грудзі і паляцеў на зямлю. Андрэй стаяў і смяяўся з няўдалых спробаў небаракі ўстаць на ногі. Раптам Паўлікава рука знайшла на зямлі камень, які вельмі спрытна лёг у далонь. У галаве мільганула хуткае рашэнне — запусціць гэты камень праціўніку проста ў твар, у гэтую непрыемную ўхмылку. Андрэй гэта зразумеў, і ягоны твар імгнення змяніўся, усмешка знікла. Ён зрабіў крок назад...

— Пашка, стой! — закрычаў Мікола, іхні сябрук.

Гэты крык спыніў Паўліка. Чамусьці яму ўзгадаліся словы айца Віктара, які казаў ім на занятках па рэлігіі, што біцца — гэта таксама грэх, бо можна адзін аднаго вельмі сур'ёзна пакалечыць. Хлопчыкава рука апусцілася, і камень паляцеў на зямлю.

Падбег Мікола, схапіў Паўла за рукі. Андрэй нічога не сказаў, адно развярнуўся і пайшоў прэч.

Праз тры дні Паўлік не вытрываў: на перапынку ў школе ён падышоў да Андрэя і папрасіў прабачэння за бойку. Андрэй адразу працягнуў яму руку ў знак прымірэння. Цяпер яны з палёгкай разам смяяліся з таго, з-за якой дробязі распачалі тую бойку.

*Айцец Віталій Даніловіч, марыянін.*

IV
Шануй бацьку свайго і маці сваю

V
Не забівай



*Кожны дзень мы чуем у навінах па тэлевізары, што недзе хтосьці кагосьці забівае. І далёка ад нас, і ўжо нават блізка, у суседняй Украіне, ідзе вайна. Мы часам ужо і не здзіўляемся гэтаму — прывыкаем да такіх навінаў. Але хіба гэта не страшна, калі мы прывыкаем да смерці? Бо Пан Бог сказаў нам: «Не забівай!». І з гэтым згодныя дзеці з парафіі святога Юзафа з Оршы.*

* Сам Бог даў нам запаведзь: «Не забівай!». Жыццё і здароўе чалавека — бясцэнныя дары, якія мы атрымліваем ад Бога. Калі ж чалавек не шануе гэтыя дары, то ён паўстае супраць самога Бога.

*Дзіма Сінкевіч, 13 гадоў.*





* Калі чалавек парушае пятую запаведзь, то ён вельмі цяжка грашыць супраць Бога і нажывае сабе ворагаў.

*Крысціна Бацюкова, 12 гадоў.*

* Калі Бог сказаў, што нельга забіваць, то і нельга гэтага рабіць. Забівае той, хто не любіць Бога і іншых людзей.

*Аліна Пяткевіч, 10 гадоў.*





* Кожны чалавек мае права жыць. Гэтае права даў яму Пан Бог. Але, на жаль, людзі вельмі часта парушаюць Божыя законы. Таму яны і самога Езуса забілі, што не былі паслухмяныя Богу.

*Алена Жураўлёва, 13 гадоў.*

* Забіваць нельга, бо можна сесці ў турму. А гэта вельмі сумнае месца.

*Насця Серада, 10 гадоў.*



*Падрыхтавала Марыя Шупіла.*

X
Не пажадай нічога, што належыць бліжняму твайму

IX
Не пажадай жонкі бліжняга твайго

VIII
Не сведчы фальшыва супраць бліжняга твайго

VI
Не чужалож

VII
Не крадзі



**Камерун** — краіна ў заходняй частцы Цэнтральнай Афрыкі з насельніцтвам 19,3 млн чал., з якіх 40 адсоткаў — хрысціяне.

# Прывітанне з Камеруна!

Працяг. Пачатак у № 1.

*Госць часопіса — валанцёр Арцём Ткачук, які яшчэ нядаўна працаваў у каталіцкай місіі ў Камеруне.*

— *Арцём! Скажыце, там, дзе вы служылі, ёсць касцёл? І ці падобны ён да нашых касцёлаў?*

— Мы служылі ў Яундэ — сталіцы Камеруна. На тэрыторыі місіі няма касцёла, толькі дзіцячы дом. Штодзённая св. Імша цэлебруецца на калідоры, там жа моляцца і на ружанцы. На занятку па рэлігіі дзеці ходзяць у парафіяльны касцёл, які знаходзіцца побач. А ўвогуле святыні тут адрозніваюцца ад нашых.



Цяжка апісаць іх выгляд, проста трэба ўлічваць, што ў краіне тэмпература не апускаецца ніжэй за 15 градусаў, а таму тоўстыя сцены не патрэбныя.

— *Што найбольш вам падабаецца ў Афрыцы?*

— Падабаецца людская адкрытасць, радасць. Усюды мне пада-



баюцца добрыя і Божыя чалавечыя рысы.

*— А што вам цяжка было прыняць? Альбо да чаго цяжка было прывыкнуць?*

— Да мясцовай ежы. Яна там зусім іншая. Калі б нам не гатавалі ежы, падобнай да еўрапейскай, не ведаю, што б мы рабілі, асабліва спачатку. Напрыклад, кус-кус (зацірка з мукі з манёку і вады) з рознымі прыправамі, яе мне цяжкавата было есці. Хоць ежа там дастаткова здаровая. А яшчэ не так проста прызвычаіцца жыць сярод чарнаскурых людзей, калі ты ўвесь час навідавоку. Бо літаральна робішся «белай воронай». Усе на цябе глядзяць, называюць белым. Але з часам і на гэта перастаеш звяртаць увагу.

*— Як сябе адчувала Марта? Не надта ёй было цяжка?*

— Нармальна. Хварэе менш за мяне, малярыі ніводнага разу не было, а я два разы на яе хварэў.

**Марта:**

— Не вельмі цяжка. Была мэта, для якой мы туды прыехалі, таму думаць, цяжка нам ці не, не было сэнсу. Што ад гэтага зменіцца? Проста трэба рабіць сваю справу.

*— Якое надвор'е было ў Камеруне?*

— Там увесь час цёпла. Падчас беларускай каляндарнай зімы там лета. Тэмпература днём можа дасягаць 40 градусаў. Ужо а 9-й раніцы больш за 20 градусаў цяпла. Летам дажджу зусім няма. У сакавіку-красавіку пачынаецца не вясна і не зіма, а проста вільготны сезон, альбо сезон дажджоў. Тэмпература робіцца трошкі меншай (да 30 градусаў), але часта ідуць моцныя дажджы. Падчас такога дажджу ў цыстэрны за 20 хвілін збіралася 2 000 літраў вады з аднаго скату даху нашага дома. А такіх скатаў у нас было 4. Вада там вельмі патрэбная, таму збіраюць яе.



*— Ці ёсць у Камеруне бульба?*







— Бульба ёсць, яе вырошчвае адзін афрыканскі рэгіён. «Беларускі хлеб» там, дарэчы, смачны і, як па мне, не адрозніваецца ад нашага. Вельмі часта мы елі стравы, прыгатаваныя на вогнішчы, таму што ежа там у прынцыпе гатуецца на адкрытым вогнішчы. Як і ўсе ў Камеруне, мы елі два разы на дзень, бо гэтак жа ядуць нашы дзеці. Абеду няма. Але для Камеруна і гэта вельмі добра, бо ў бедных вёсках людзі ядуць адзін раз на дзень, а можа і радзей.

— *Вы ж асцерагаліся, каб не захварэць на якую страшную хваробу. Ці хварэюць людзі на Эболу?*

— У Камеруне няма Эболы. Ды й увогуле да гэтай эпідэміі там ставяцца з гумарам. Нашмат больш людзей памірае ад іншых цяжкіх хваробаў: ад малярыі, тыфу, СНІДу. А наконт асцярожнасці — дзякуй. Хоць трэба дадаць, што часам у беларусаў вельмі стэрэатыпнае мысленне адносна Афрыкі. Маўляў, як там жыць: навокал толькі хваробы і смерць. Ёсць трохі ў гэтым праўды, але, калі часта мыць рукі, піць чыстую ваду, проста быць пільным, то ўсё будзе добра.



— *Калі ласка, Арцём, перадайце вялікае прывітанне камерунскім дзецям ад чытачоў «Маленькага рыцара Беззаганнай». Абяцаем вам малітву за місію, за місіянераў і за тых, дзеля каго вы паехалі ў Афрыку.*

— Вялікі дзякуй. Штодзённа ў 17.30 там моляцца ружанцовай малітвай за ўсіх людзей, якія дапамагаюць місіі. Кожны дзень ў 6.00 — святая Імша, 14 і 15 чысло кожнага месяца яна адпраўляецца ў інтэнцыі ахвярадаўцаў. Маем надзею, што наш з Мартай побыт у Камеруне пазітыўна паўплывае на развіццё справы місій у Беларусі. З Богам!

— *Дзякуй за гутарку! З вяртаннем вас на Радзіму!*

*Гутарыла Ірына Жарнасек.*

*Малюнак Вольгі Чарняўскай.*

## Прыпавесці

# Трошкі інакш

На вуліцы пад плотам сядзеў сляпы і прасіў міласціну. Пры ягоных нагах ляжала шыльдачка: **«Я сляпы. Памажыце мне!»**.

Каля яго праходзіў чалавек, у якога не было грошай, але ён нахіліўся і напісаў на шыльдачцы некалькі словаў. Увечары сляпы прынёс дахаты поўную шапку грошай — столькі яму яшчэ ніколі не давалі!

На наступны дзень сляпы пазнаў свайго дабрачынцу па кроках і запытаў, што той напісаў на ягонай шыльдачцы.

— Нічога асаблівага, — адказаў яму чалавек. — Я напісаў тое ж самае, што і ты, але трошкі інакш.

Новы надпіс быў такі: **«Цяпер вясна, але я яе не бачу»**.




*Малюнак юных мастакоў з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка».*

***«Няхай ніхто з вас не церпіць як забойца або злодзей, або як злачынец».***

1 П 4, 15

Ірына ЖАРНАСЕК

# Адрэналін

Усё здарылася імгненна. Косцік нават не паспеў зразумець, як яно здарылася. Ці то ён сам саскочыў з ровара, ці то яго хто скінуў з яго? Але ў выніку ровар валяўся на зямлі, а сам Косцік ляжаў побач. Трэск... Скрыгат... Крык... І вось цяпер ён сядзеў на траве, абхапіўшы галаву рукамі, заткнуўшы вушы, каб усяго гэтага не чуць.

Людзі збягаліся з розных бакоў. Спыняліся машыны. Хтосьці крычаў:

— Чым дапамагчы?

— «Хуткую», выклічце «хуткую»...

— Ужо выклікалі!

Каму «хуткую»? Навошта? Хто захварэў?

— А міліцыю выклікалі?

— Едзе вунь ужо! Сама прынеслася.

— А за рулём у «Вольве» — жанчына... Вось так яно і бывае...



— Го! Жанчына. Некаторыя з іх ездзяць лепш за мужыкоў. Вунь мая суседка — так джгарыць, не кожны мужык зраўняецца!



Да Косціка падбег Жэнька, тузануў за рукаво:

— Чаго рассеўся? Пайшлі!

— Куды? — не зразумеў Косцік.

— Разыходзімся пад шумок! — па-змоўніцку зашаптаў Жэнька. — Пакуль яны тут занятыя і не



пачалі высвятляць, хто быў, чаго і навошта...

— Але ж...

— Ніякіх «але ж»! Змываемся!

Жэнькаў тон не дапускаў пярэчанняў, і Косцік падняўся, але войкнуў ды прысеў ад болю — нага не слухалася. Сам то ён гатовы быў бегчы з гэтага страшнага месца, а нага... не пушчала...

— Ну, глядзі сам! — і Жэнька сігануў за куст, адтуль ягоная клятчастая кашуля мільганула раз, другі — і знікла за прыпаркаванымі машынамі.

— А я? — невядома ў каго запытаў Косцік і закрыў далонямі твар. Яму захацелася раптам зрабіцца маленькім, непрыкметным, зусім-зусім незаўважным.

— А гэты герой — што, таксама ўдзельнік ДТЗ? — запытаў чыйсці пагрозлівы голас над Косцікам, і хлопчык зразумеў, што непрыкметным ды маленькім яму ўжо не быць. Ён узняў вочы, убачыў над сабой міліцыянта і зноў заплюшчыў іх. Міліцыянт здаўся такім вялікім, не раўнуючы, як той дзядзя Сцёпа. Адно што дзядзя Сцёпа добры, а гэты...

«Недзядзясцёпа» нахіліўся над Косцікам:

— Ты ўдзельнік дарожна-транспартнага здарэння альбо толькі сведка?

Косцік крутнуў галавой — ён не хацеў быць ні першым, ні другім. Ён увогуле вельмі хацеў бы цяпер знікнуць адсюль, каб яго ніхто-ніхто не бачыў.

— Што матляеш галавой? — не адступаўся міліцыянт. — Як парушаць, дык мы гатовыя, а як адказваць, тады вады ў рот набіраем?

— Але ж ніхто, здаецца, не загінуў, — падаў хтосьці голас збоку.

— Ага, усе жывыя... нібыта... — падтакнуў яшчэ нечы голас, такі добры-добры.

— Ну, не загінуў, — міліцыянт выпрастаўся, ён ужо не вісеў больш над Косцікам грознаю хмараю, — дык а што, рэагаваць не трэба, калі ніхто не загінуў?

— А-а-а-а... А-а-а-а... — гэты голас Косцік пазнаў бы з тысячы іншых. І ён зноў заплюшчыў вочы ды заткнуў вушы. Ды толькі як не пачуеш гэтага голасу, калі ён прабіваецца нават праз далоні над вушамі? Мама. Хто ёй сказаў і навошта?

Мама падбегла да купкі людзей пры машынах, выдыхнула ў натоўп:

— Дзе Косцік? Дзе?

Людзі пераглядваліся, гаманілі, не ведалі, што адказаць гэтай жанчыне, а Косцік зусім не меў сілы выціснуць з сябе хоць бы слова. Дакладней, ён шаптаў, але ягоных словаў ніхто, у тым ліку і мама, не чуў.

— Усе жывыя, — сказаў хтосьці самае галоўнае. — Супакойцеся. Усе жывыя.

— Жывыя? — паўтарыла яна няўцямна. — Жывыя?

У Косціка нарэшце прарэзаўся голас:

— Мама! — паклікаў ён. — Мама!



Яна падбегла, схапіла яго і адарвала ад зямлі, падняла:

— Ты цэлы? Жывы? Усё добра?

— Так, мама, — шапнуў Косцік, хоць яму вельмі моцна балела нага. Яна балела гэтак моцна, што яму не хацелася, каб мама паставіла яго на зямлю. Няхай бы мама трымала яго яшчэ даўжэй...

Зноў падышоў міліцыянт і казырнуў:

— Грамадзянка, гэта ваш сын? Ён сведка... альбо ўдзельнік ДТЗ! Трэба даць паказанні.

— Па-ка-зан-ні?.. — Мама паставіла Косціка на зямлю, а ён войкнуў і рухнуў проста каля яе ног.

— У яго нага зламаная!

— Доктара!

Нейкія людзі ў белых халатах замітусіліся, пачалі аглядаць, абмацваць Косціка, потым паклалі хлопчыка на насілкі і пачалі запіхваць у машыну. У Косціка прарэзаўся голас:

— Я не хачу! Пусціце! Мама!

Але яму растлумачылі, што гэта абавязкова патрэбна — ехаць цяпер у бальніцу, каб усё добра праверыць. Маці таксама села ў машыну побач з Косцікам.

— А ровар? Што будзе з роварам? — заплакаў Косцік.

— Ровар? — перапытаў міліцыянт. — А... веласіпед!.. Дык яго мы забярэм у якасці рэчавага доказу. У міліцыі будзе твой транспарт!

Так скончылася Косцікава з Жэнькам прагулянка. Вельмі хутка на гэты раз. Не паспелі яны аб’ехаць два разы вакол кавярні «Пралеска», як за другім разам, калі Косцік штосілы нёсся з гары да пешаходнай дарожкі, што вілася вакол кавярні, і заскрыгаталі тармазы блакітнай «Вольвы».

Потым маме растлумачаць, што за рулём той «Вольвы» была маладая жанчына, якая яшчэ нядаўна села за руль. Яна ўбачыла, як наперарэз, нібыта проста ёй пад колы, ляціць хлопец на ровары, ну і крутнула руль... А насустрач ехалі «Жыгулі». Шчасце, што імі кіраваў пажылы пенсіянер, які ніколі больш за 70 не выціскаў са сваёй машыны. Ён з’ехаў у кувет, «Вольва» адно паспела шкрабануць па «жыгулёўскім» капоце... Словам, усё скончылася добра. Усё добра, апроч таго, што Косцік, калі саскокваў на хаду з ровара, зламаў нагу...

— Я ж цябе прасіла... Я столькі разоў прасіла, каб не ездзіў ты катацца вакол «Пралескі» — пры саменькай дарозе яна, ды яшчэ на пагорку!.. Гэтак страшна, як вы з гары леціцё там!..

— Я не хацеў спачатку, — пачаў апраўдвацца Косцік, — але ж хочацца часам адрэ... адрэ-на-ліну, — старанна вымавіў ён пачутае нядаўна ад Жэнькі слова.

Маці схапіла ручнік і замахнулася на сына:

— Вось я табе пакажу адрэналін!

— Але ж я не вылецеў на дарогу, — вёў сваё Косцік.

Медсястра, якая прынесла яму чарговы ўкол, скінула з пацыента коўдру, нахілілася над Косцікавым азадкам і, укалоўшы, рашуча прамовіла:

— Не вылецеў ён! А каб вылецеў, то можа б ужо і ўколы не трэба было шпіляць!

Мама закрыла даланёй рот, а медсястра скончыла сурова:

— Праз такіх, як ты, герой, нам хоць за руль не сядай!..



*Мастак — Вольга Чарняўская.*



# Старонка «божых каровак»

## Дзень братэрскай думкі



Сёлета ў Івянцы прайшоў Дзень братэрскай думкі, у якім прымала ўдзел 150 скаўтаў з усёй Беларусі. Былі на ім і «божыя кароўкі». Ажно цэлых 30 зляцелася іх на гэтую сустрэчу! Нават з Гродна прыляцелі і пазнаёміліся з івянецкімі «божымі кароўкамі».



Супольная Імша і малітва з’ядналі нас духоўна, а гульні і забавы паспрыялі і знаёмству, і весела праведзенаму разам часу. Многія павезлі дахаты прызы і падарункі. Яны будуць нагадваць дзецям пра гэтую цудоўную падзею.

А табе было б цікава прыняць удзел у якой-небудзь скаўцкай падзеі? Калі так,то далучайся да нас. Будзем рады!

*Твае сябры скаўты*






# Шчаслівы дзень!

Шаноўная рэдакцыя! Хачу падзяліцца з вамі вялікаю радасцю, якая здарылася ў маім жыцці 31 мая 2015 года. У гэты дзень Езус Хрыстус упершыню ўвайшоў у маё сэрца. Я доўга рыхтаваўся да гэтага дня і, прызнаюся, трошкі баяўся. Але дарэмна, бо ў сакрамэнце споведзі нас чакае добры Езус, які вельмі любіць усіх. Я вельмі хачу, каб Езус стаў маім найлепшым сябрам на ўсё жыццё.

*Стас Сямашка, 8 гадоў.*
*Жодзіна.*




*На здымку — я ў гэты шчаслівы дзень разам з пробашчам нашай парафіі Маці Божай Фацімскай айцом Міхаілам, айцом Канстанцінам і сястрой Ліліяй.*

# НАШ СВЕТ ПРЫРОДЫ







*Дзіўна, але імгненні канікулаў заўсёды запамінаюцца найбольш. Дзеці з парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі з Мінска мінулым летам правялі іх на беразе Дняпра, у Оршы.*

*Наш свет, які стварыў добры Бог, усюды прыгожы. Трэба толькі навучыцца нам узірацца ў яго, любіць і захапляцца ім. А яшчэ трэба ўмець сябраваць. Тады нам будзе ўсюды добра й весела!*

*Гэтым дзецям сапраўды добра быць разам. Ці ж не так?*

*Фота Ірэны Рубінавай.*

## І ты ў гэтым свеце











# Юльянка

Першакласніца Юльянка Барысёнак жыве ў Мінску. Яе бабуля Валянціна — у Клецку. Ды адлегласць не перашкаджае ім разам бываць у Оршы, на сустрэчах «Вінаградніку».

Гэтыя сустрэчы ўвогуле для дарослых, але часам прыязджаюць туды і дзеці. Юльянка — адна з іх. Яе старэйшыя браты Андрэй і Ілля таксама раней прыязджалі, а вось малодшыя Павел з Максімам няхай яшчэ трохі падрастуць.

Юльянка — багатая на братоў. Не кожная дзяўчынка можа пахваліцца такой абаронай і падтрымкай! Але ж і не кожны брат мае сястру гімнастку, якая лоўка робіць шпагат, стойку ды іншыя фігуры ў самых розных умовах!



На святой Імшы Юльянка часта моліцца за сваю сям'ю, сяброў, за бабулю, якую яна вельмі любіць. Яны з бабуляй Валянцінай — сапраўдныя сяброўкі!

*Яська Запытальнік*





# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

*Пачатак публікацыі ў № 1 (55) за 2012 год.*

**І калі яны елі, Езус, узяўшы хлеб,
благаславіў, паламаў і даў ім, кажучы:
«Бярыце, гэта Цела Маё»**

Мк 14, 22

Мы верым, што ў выглядзе хлеба ў Эўхарыстыі таемным чынам прысутнічае сам Езус, які памёр дзеля таго, каб адкупіць нашыя правіны перад Богам. Ён узяў за нас нашыя грахі і памёр, каб вызваліць нас ад вечнай смерці.







Калі святар праламляе Гостыю — Цела Хрыста, мы молімся:

— Баранку Божы, які бярэш на сябе грахі свету, змілуйся над намі,

Баранку Божы, які бярэш на сябе грахі свету, змілуйся над намі,

Баранку Божы, які бярэш на сябе грахі свету, адары нас супакоем.



Святар укленчвае, потым бярэ Гостыю і, трымаючы яе крыху ўзнятай над патэнаю альбо над келіхам, гучна гаворыць:

— Вось Баранак Божы, вось той, хто бярэ на сябе грахі свету. Благаслаўлёныя пакліканыя на вячэру Ягоную.

Мы адказваем:

— Пане, я не варты, каб Ты ўвайшоў да мяне, але скажы толькі слова, і будзе аздароўлена душа мая.





# Адгадай крыжаванку —

*і ты зразумееш,*
*дзе чакае цябе Маці Божая.*

1. Лекар — евангеліст.
2. Сваячка Марыі.
3. Святы горад.
4. Кароль Ізраэля.
5. Першае імя святога Пятра.
6. Сябар Езуса.
7. Родны горад Марыі.
8. Евангеліст.
9. Першая жанчына.





# Загадкі з Бібліі

Сябры! Для таго, каб правільна адказаць на пытанні, прачытайце 2-гі раздзел Дзеяў Святых Апосталаў. Ну і, вядома, падумайце, паразважайце і падзяліцеся са мной сваімі адказамі. Вельмі чакаю іх.

- Пералічыце таямніцы святога Ружанца, якія адпавядаюць Велікоднаму перыяду.
- У якое габрэйскае свята адбылося Спасланне Святога Духа?
- Як называлася тое памяшканне, дзе Апосталы разам з Маці Божай маліліся напярэдадні гэтай падзеі?
- Колькі чалавек прынялі святы хрост у дзень Пяцідзясятніцы?
- Хто гаварыў казанне ў гэты дзень?
- Як вы святкуеце Спасланне Святога Духа ў сваёй сям'і?
- Ці ведаеце, якія дары можа даць нам Святы Дух? Ці атрымалі вы ўжо іх?

*Як і раней, я, сябры, спадзяюся на тое, што вы не палянуецеся і прышлеце мне яшчэ і малюнкі.*

Маленькі рыцар Беззаганнай

Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 1 за 2015 г.**

**«Загадкі з Бібліі»:** Мц 6, 16-17; Мк 9, 29; Лк 2, 37; бо ў гэты дзень былі ўстаноўлены два сакрамэнты: Эўхарыстыі і святарства; Езуса пахавалі Яго таемныя вучні: Юзаф з Арыматэі і Нікадэм; таму што пальмы ў нас не растуць і мы вітаем Езуса вербамі, галінкі якіх распускаюцца вясною першымі; бо так мы сведчым пра Хрыста; святая Магдалена; у Касцёле, сярод нашых бліжніх.

**Разгадка рэбуса:** Вербніца.

**«Апошняя Вячэра»:** чацвер.

**«Зайцава лічылка»:** 12 зайцоў.

**«Лабірынт»:** вуда, санкі, замок, люстэрка, шыла, рубанак.



Кс. Ян Твардоўскі

# Святы і колеры



На працягу ўсяго года мы адзначаем тры найважнейшыя святы: Божага Нараджэння, велікодныя і Зялёныя святкі, калі мы гаворым пра Духа Святога, які з'яўляецца Духам радасці.

Святы Божага Нараджэння можна назваць Белымі святамі. Белыя святкі. Ідзе белы снег, з яго лепяць белую снежную бабу. У святога Мікалая белая барада, бо бароды бялеюць на старасць, як зайцы на зіму. На белай талерачцы ляжыць белая аплатка. Белы бывае ліст, у якім зімою пішуць гарачыя словы. Ксёндз на Пастэрку апранаецца ў белае, як анёл.

Велікодныя святы — рознакаляровыя. Ксёндз надзявае фіялетавую стулу на белую комжу. Велікодны баранак звычайна ў двух колерах: белы з чырвонаю харугвачкаю. Мы маем разнастайныя фарбаваныя яйкі: жоўта-зялёныя, аранжавыя, блакітныя, фіялетавыя, стракатыя — пісанкі, крашанкі, накляянкі. Каляровыя святы.

Свята Спаслання Духа Святога — зялёнае і вясёлае. За вокнамі — зялёныя дрэвы, зялёныя травы. Усё альбо ўжо зялёнае, альбо яшчэ зялёнае, як, напрыклад, памідоры. У гэты дзень трэба жадаць адзін аднаму ўсяго вясёлага зялёнага!

Пан Бог стварыў свет у стольких колерах, у адных — на Божае Нараджэнне, у іншых — на Вялікдзень, яшчэ ў іншых — на Спасланне Духа Святога.

Ні справа, ані злева не відаць
Святога Духа вокам пранікнёным,
але Яго ўшаноўвае ўвесь свет —
і белы, і стракаты, і зялёны.

*Пераклад з польскай мовы Ганны Шаўчэнка.*
*Паводле: Ks. Jan Twardowski. Kubek z jednym uchem.*





*Ілюстрацыя Марціна Стшэмбоша.*

Узнагароды за правільныя адказы атрымаюць: **Аляксей Томкавіч** і **Яна Сянько** з Вілейкі і **Маргарыта Ясэпкіна** з Полацка, якія правільна разгадалі ўсе загадкі і набралі па 18 балаў. Віншуем пераможцаў!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



*Старонка*
*сястры пастулянткі*
**Яўгеніі Трапачовай**
*з Супольнасці Сясцёр*
*Змёртвыхпаўстання*
*Пана нашага Езуса Хрыста*

# НАШЫ РУКІ ДА ПРАЦЫ ГАТОВЫ

Бог моцна любіць нас і хоча расказаць нам пра сваю любоў, паказаць шлях да збаўлення, каб мы маглі сустрэцца з Ім. Дзеля гэтага Ён выбраў людзей, якія пад натхненнем Духа Святога спачатку пераказвалі, а потым запісвалі Божае слова. Такім чынам Бог сам кіраваў працэсам стварэння Бібліі.




Сёння Бог і нас таксама заахвочвае да абвяшчэння Яго слова нашым сябрам, родным і знаёмым. Гэта можна і трэба рабіць усюды: у садку, школе ці на вуліцы. Таму Бог і на нас спасылае Святога Духа.

На старонках Святога Пісання мы сустракаем Святога Духа ў розных постацях, напрыклад, у выглядзе голуба, вогненных языкоў.

Прапаную вам, сябры, зрабіць голуба з паперы, каб ён нагадваў вам пра Святога Духа і пра тое заданне, якое ўсклаў на нас наш Стварыцель.





"Няхай сыйдзе Дух Твой!". Паліна Кісель, 9 гадоў.



# Галерэйка

## Конкурс «Радасны хрысціянін»

Аўтары гэтых малюнкаў — дзеці з парафіі святога Андрэя Апостала з г.п. Нарач. А вы, сябры, ведаеце радасных святых? Калі так, то прысылайце свае творы на конкурс. Ён працягнецца да канца 2015 года.

*Рэдакцыя*




"Шукайце Езуса". Аліна Ліхач, 11 гадоў.



"Апякун Езуса". Вераніка Мілаш, 8 гадоў.




"Благаслаўляю вас...". Валерыя Грудзінская, 11 гадоў.



"На сустрэчу з Езусам". Анастасія Шырневіч, 9 гадоў.

